


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 9 (180) ЧЭРВЕНЬ 2014 ГОДА

**Цытата нумара:**

*Часы рэдка бываюць горш, чым людзі*

**Норман Мэйлер**

СПАРТЫЎНАЯ НАВІНА

## ПРАЯВІЛІ ХАРАКТАР І АТРЫМАЛІ ВАЛЯВУЮ ПЕРАМОГУ

**ФК "Прамень" 15 чэрвеня на сваім полі перамог ФК "Дынама" (Лёзна) з лікам 2:1. Пры гэтым пасля першага тайма лік быў 1:0 на карысць гасцей.**

Папярэдні матч на сваім полі гарадоцкія футбалісты з "Экамол" (Аршанскі раён) завяршылі лікам 4:4. Пры гэтым па ходу матча да 75-й мінуты "Прамень" вёў 4:1. У зусім іншым ключы адбываўся матч з "Дынама", якое ў мінулым сезоне двойчы перамагло нашых футбалістаў.

З самага пачатку першага тайма ішла напружаная барацьба з пераменным поспехам. Істотным фактарам сустрэчы быў моцны вецер супраць якога ў першым тайме даваўся гуляць нашым футбалістам. З-за гэтага фактара большай ініцыятывай у першым тайме валодалі госці. Напрыканцы тайма пасля пападання ў бакавую штангу госці накіравалі мяч у нашу браму.

Пасля перапынку ініцыятыва поўнасцю перайшла на бок гаспадароў. Пастаянна ў напрузе трымаў абарону лёзненцаў Вячэслаў Мочкін.

Актыўна далучаўся да атакі Зміцер Шыла. "Дынама" адказвала рэдкімі контратакамі.

Сітуацыя змянілася за 15 мінут да заканчэння матча, калі ў сваёй штрафной рукой сыграў абаронца лёзненцаў. Вячэслаў Мочкін бездакорна выканаў пенальці і давёў лік сваіх забітых мячэй у гэтым чэмпіянаце да пяці.

Пасля гэтага матч пайшоў, як кажуць на сустрэчных атаках. Але больш востра атакавалі гарадоцкія футбалісты. І за тры мінуты да аснаўнога часу Вадзім Васільеў, знаходзячыся ў штрафной, дакладным ударам вывеў наперад "Прамень".

Апошнія мінуты матча прайшлі з ініцыятывай гасцей, але нашы футбалісты не дапусцілі памылак папярэдняга матча і атрымалі валявую перамогу.

Пасля гэтага тура ў "Праменя" стала 7 ачкоў, як і ў яшчэ трох каманд – "Экамол", "Полацкгаз", "Азярцы". На першае месца з 8 ачкамі выйшаў "Будаўнік" (Сянно), які правёў на адну гульню больш, чым нашы футбалісты. Першыя тры матчы засведчылі, што нашы футбалісты могуць на роўных спаборнічаць з любой камандай першай лігі. І гэта надае аптымізм.

Чарговы тур адбудзецца 21-22 чэрвеня, але "Прамень" яго прапусціць у сувязі з удзелам у турніры выхаднога дня. У Віцебску адбудзецца ў трэцці раз Адкрыты кубак "Хмелю" ў парку па вул. Люднікава на штучным газоне. Адначасова з гэтым упершыню адбудзецца і турнір па Beer-понгу, які мае паўвекавую гісторыю. Пачатак 21 -- 10.00, 22 – 10.00

**Леанід Гаравы**

**САЙТ ТВАЙГО ГОРАДА HTTP://HARADOK.INFO**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## НАШЫ ПЕРАМОЖЦЫ

**Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання падвяло вынікі рэспубліканскага спаборніцтва за дасягненне высокіх паказчыкаў па вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі ў 2013 годзе. Сярод пераможцаў 14 прадстаўнікоў Гарадоччыны ў асноўным з філіяла «Віраўлянскі» ЗП «Дзецкасельскі-Гарадок», а таксама СУП «Паўночны».**

Сярод сельскагаспадарчых арганізацый і іх філіялаў, якія спецыялізуюцца на вытворчасці малака, вышэйшая прыступка п'едэстала гонару ў СВК "Асавецкі" Драгічынскага, філіяла «Віраўлянскі» ЗП «Дзецкасельскі-Гарадок» Гарадоцкага, КСУП "Агракамбінат" Холмеч "Рэчыцкага, СВК" Свіслач "Гродзенскага, «Агракамбінат Сноў» Нясвіжскага і «Чырвоны баец» Кіраўскага раёнаў. Такім чынам упершыню сельскагаспадарчы калектыў нашага раёна увайшоў у лік пераможцаў малочнай вытворчасці ў краіне.

Сярод пераможцаў рэспубліканскага спаборніцтва ў розных катэгорыях і вялікая група работнікаў нашага раёна. Пераможцамі рэспубліканскага спаборніцтва прызнаны:

Галоўны заатэхнік - МІКАЛАЕЎ Сяргей Уладзіміравіч - СУП «Паўночны»;

Галоўны ветурач - Гаўрыленкі Яўген Яўгенавіч - СУП «Паўночны»;

Заатэхнік-селекцыянер - Барсукова Алена Васільеўна - ф-л «Віраўлянскі» ЗП «Дзецкасельскі-Гарадок»;

Брыгадзір малочна-таварных ферм - ПУПЫШАЎ Уладзімір Анатольевіч - ф-л «Віраўлянскі» ЗП Дзецкасельскі-Гарадок»;

Аператар па штучным асемяненню жывёл - ТАМКОЎ Віктар Васільевіч - СУП «Паўночны»;

Сярод аператараў машыннага даення кароў - Воранава Валянціна Міхайлаўна - СУП "Паўночны»;

Сярод аператараў па вырошчванні буйной рагатай жывёлы да 6-месячнага ўзросту

ЛАЎРАНЦОВА Надзея Мікалаеўна - ААТ «Гарадоцкі льнозавод»;

Сярод аператараў па вырошчванні буйной рагатай жывёлы старэй 6-месячнага ўзросту --

МАРОЗАЎ Сяргей Леанідавіч, Жбанкова Людміла Васільеўна, Фокіна Таццяна Міхайлаўна (звяно) - ф-л «Віраўлянскі» ЗП «Дзецкасельскі-Гарадок»;

Сярод аператараў па абслугоўванню свінаматак з парасятамі -- ТАРАНКОВА Вера Яўгенаўна - СУП «Паўночны»;

Сярод аператараў па вырошчванні парасят-отъемышей - Уласава Людміла Фёдараўна - СУП «Паўночны»;

Сярод аператараў па адкорму свіней - КЛЮШЧАНКА Святлана Генадзьеўна - СУП «Паўночны».

Усяго сярод работнікаў сельскагаспадарчых арганізацый і іх філіялаў пераможцамі рэспубліканскага спаборніцтва прызнаны 97 галоўных заатэхнікаў, 101 галоўны ветэрынарны лекар, больш за 70 заатэхнікаў-селекцыянераў, звыш ста брыгадзіраў малочна-таварных ферм, а таксама вялікая група аператараў машыннага даення, аператараў жывёлагадоўчых комплексаў па абслугоўванні дойнага статка, аператараў жывёлагадоўчых комплексаў па вырошчванні буйной рагатай жывёлы да шасцімесячнага ўзросту, а таксама аператараў птушкафабрык па абслугоўванні курэй-несушек, бацькоўскага статка птушкі мяснога напрамку.

Усе пераможцы рэспубліканскага спаборніцтва адзначаны ганаровымі дыпломамі і грашовымі прэміямі.

**Л. Антонаў**

**www.belniva.by/news_full.php**

ТАКОЕ ГАСПАДАРАННЕ

## ВАШ ВЕЛАСІПЕД ПЕРАДАДУЦЬ МІЛІЦЫЯНЕРАМ

**Гаспадары крамы "Вішера" пасля афарбоўкі будынка не прыдумалі нічога лепшага, як пагражаць уладальнікам веласіпедаў, якія пакінуць двухколавага "сябра" каля крамы, здачай яго ў міліцыю.**

Дзверы і два акна крамы "Вішера" апошнім часам "упрыгожваюць" пагрозлівыя аб'явы: "Веласіпеды, якія стаяць у сцяны магазіна, будуць здадзены ў міліцыю". Такі "клопат" аб веласіпедах упершыню назіраецца ў Гарадку.

Адпаведна існуючых нарматыўных дакументаў гаспадары крамаў павінны забяспечыць каля крамаў паркоўку веласіпедаў. Гэта выканана каля крам ТДА "Авангард", каля крамы "Юбідейная", "Цэнтральная" і магчыма іншых. Звычайна ўладальнікі крамаў спрыяюць таму, каб іх краму наведвалі спажыўцы на веласіпедах.

Але, як бачна, у сёняшняга гаспадара "Вішеры" іншае меркаванне – аб'явіць "вайну" веласіпедам, каля сцен крамы, замест таго каб абсталяваць умовы для іх паркоўкі.

Гарадоцкі РАУС, які вядзе ўжо з пачатку года не адзін дзесятак спраў аб угонах веласіпедаў, ужо мусіць прыняць жорсткія меры да гаспадароў крам, каб яны арганізавалі умовы для бяспечнага захавання веласіпедаў каля крам.

**Л. Антонаў**

"ДАЖЫНКІ – 2014"

## НОВАЯ ПЛАТФОРМА АЎТАСТАНЦЫІ

**На пачатку чэрвеня сталі бачны асаблівасці новай аўтастанцыі ў Гарадку: узровень пасадачнай платформы будзе падняты больш чым на два метры**

Наш апошні рэпартаж аб рэканструкцыі аўтастанцыі г. Гарадка датычыўся пытання пабудовы двухпавярховага будынка новай аўстанцыі. У той час асноўная пляцоўка была абнесена будаўнічым плотам.

І вось напрыканцы траўня частка плота была знята.

Зараз жыхары маюць магчымасць пабачыць, што ніжэйшы ўзровень пасадачнай платформы будзе падняты больш чым на два метры. Адпаведна платформа будзе размяшчацца гарызантальна, а не пад ухілам, як было раней.

За апошні месяц таксама змантіраваны вялікія слупы на якіх будзе трымацца дах над зонай пасадкі пасажыраў. Нагадаем, што за тры летнія месяцы будаўнікі павінны завяршыць рэканструкцыю аўтастанцыі.

**Л. Антонаў**

ЧЫСТЫ ГОРАД

# ПАЛІГОН ЦКА ЗАЧЫНЕНЫ…

**Для грамадзян Гарадка, якія самастойна вырашылі пазбавіцца ад камунальных адходаў, Гарадоцкім прадпрыемствам кацельных і цеплавых сетак устаноўлены новы парадак іх утылізацыі.**

Дзеля ўпарадкавання працы палігона цвёрдых камунальных адходаў, які размешчаны на пятым кіламетры ад Гарадка, на яго браме з'явіўся замок.

Зараз грамадзяне, якія вырашылі самастойна вывезці смецце з прыватнага сектару, павінны зрабіць гэта ў рабочы час.

Пры гэтым неабходна аплаціць паслугі па утылізацыі камунальных адходаў ў бухгалтэрыю Гарадоцкага прадпрыемства кацельных і цеплавых сетак іатрымаць адпаведную квітанцыю на утылізацыю. Кошт утылізацыі бытавых адходаў не вялікі -- каля 12 тысяч рублёў за кубаметр бытавых адходаў, крыху іншы кошт за утылізацыю будаўнічых. Але не столькі напружвае кошт, колькі неабходнасць зрабіць гэта ў працоўны час.

Пакуль грамадзяне, якія вывозяць адходы пасля працы ці ў выходныя дні, складзіруюць іх каля брамы палігона.

Адпаведна рабочыя камунальнай службы вымушаны завазіць гэтыя адходы пасля выхадных дзён на палігон. Пры ўездзе на палігон няма інфармацыі аб тэлефонах па якіх магчыма дамовіцца аб прыняцці адходаў у выхадныя дні ці пасля працы.

У такіх умовах грамадзяне вымушаны будуць або і далей складзіраваць адходы каля брамы палігона або выкідваць іх у навакольных хмызняках, калі вымушаны будуць стаць парушальнікамі экалагічнага заканадаўства. Між тым павышаць інфарміраванасць грамадзян аб спосабах утылізацыі цвёрдых адходаў першы абавязак камунальных службаў, як і ствараць спрыяльныя умовы працы палігона. І гэта значна прасцей, чым потым збіраць адходы па навакольных хмызняках.

**Л. Антонаў**

НАШЫ ДАРОГІ

# РЭКАНСТРУКЦЫЯ

**Рэканструкцыя цэнтральнай дарогі Гарадка Р115 наблізілася да свайго экватара: паабапал дарогі актыўна ўсталёўваюцца бардзюры, а таксама вядзецца ўкладка новага асфальтавага пакрыцця. Пры гэтым на ёй часова ліквідаваны ўсе ляжачыя паліцэйскія.**

Ляжачыя паліцэйскія ліквідаваны не толькі на дарозе Р115 – каля Гарадоцкага аграрна-тэхнічнага каледжа, СШ№1, але і на вуліцы К.Маркса, каля будынка пачатковай школы СШ№1.

Менавіта на вул. К.Маркса напрыканцы мінулага тыдня па новаму заасфальтавалі дарогу да скрыжавання на вул. Камсамольская. Асфальт з'явіўся і на самым пачатку вул. Камсамольская - -да царквы Святой Тройцы.

Будаўнікі таксама ліквідавалі высотныя клумбы на скрыжаванні вул. Баграмяна і Камсамольская. Як кажуць не прайшло і пяці гадоў, а пабудаванае ўжо пабурылі. Гэтыя недарэчныя высотныя клумбы узніклі пару гадоў назад і перашкаджалі агляду аўтамабілістамі манеўра на скрыжаванні, былі прычынамі ДТЗ.

Знішчэнне небяспечных клумбаў – правільны крок. А вось за іх недарэчнае ўсталяванне, марнатраўства бюджэтных сродкаў асабліва ніхто і не адказвае...

**Л. Антонаў**

НАША СПАДЧЫНА

# САМЫ СЛАВУТЫ АНАНІМ, ЯКІ РОБІЦЬ СЛАВУТЫМ І НАШ ГАРАДОК

**13 чэрвеня — 180 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Вераніцына — аўтара паэмы «Тарас на Парнасе». Пра Канстанціна Вераніцына вельмі пранікнёна і цёпла у артыкуле "Самы славуты ананім" пяць гадоў таму напісаў вядучы даследчык тарасазнаўства беларускі літаратуразнаўца Язэп Янушкевіч.**

"Яшчэ трыццаць гадоў таму гэта падалося б немажлівым: адзначаць юбілей аўтара «Тараса на Парнасе». Імя Канстанціна Вераніцына спакваля займае месца ў беларускай літаратуры. Ад самага таго дня 13 лістапада 1973 г., калі даследчык Генадзь Кісялёў адшукаў першыя згадкі пра яго ў Гістарычным архіве.

Яшчэ ў 1980 я ў школьных падручніках выгадней было трымацца думкі пра ананімнасць твора: не ставала доказаў на карысць якой небудзь канкрэтнай асобы, хоць сакрэт аўтарства ляжаў на паверхні.

Перашкаджала літаратуры палітыка. А менавіта яснае ўказанне на тое, што аўтарам «Тараса на Парнасе» быў Канстанцін Вераніцын, утрымлівалася ў рукапіснай хрэстаматыі беларускай літаратуры, якую ў другой палове XIX ст. складаў даследчык Аляксандр Рыпінскі.

Тыя сшыткі Рыпінскага ў 1920-я захоўваліся ў прафесара Міхаіла Піятуховіча, які выкладаў у Беларускім дзяржуніверсітэце. Іх і пабачыў адзін з тагачасных студэнтаў, Антон Адамовіч, пазней знаны літаратуразнаўца, патрыярх беларускай эміграцыі ў ЗША.

Дарэчы, у чэрвені спаўняецца сто гадоў і ад яго нараджэння.

Сшыткі Рыпінскага згубіліся ў ваенных пажарах. Але ўспаміны Адамовіча, цішком паказаныя Генадзю Кісялёву Максімам Лужанінам у пачатку 1970 х, далі штуршок да яго росшукаў.

Спачатку Кісялёў быў пэўны, што «Вераніцын» — псеўданім.

Таму шукаў па архівах звесткі пра ўсіх магчымых Канстанцінаў. І раптам у дакументах Горацкай земляробчай акадэміі за 1857—1858 гады знаходзіць звесткі пра найпершага выдатніка Канстанціна Вераніцына. Пастулова вобраз аўтара «Тараса на Парнасе» паўстаў перад намі ў многіх падрабязнасцях.

Канстанцін Васілёў Вераніцын нарадзіўся 13 (1 па старым стылі) чэрвеня 1834 г. у вёсцы Астраўляны Віцебскага павету Віцебскай губерні (цяпер Гарадоцкі раён).

Быў ён па нараджэнні прыгонным, як і яшчэ адзін Тарас — украінец Шаўчэнка. Літаратуразнаўцы неадноўчы звязвалі з ім загаловак паэмы. ЯшчэАляксандр Рыпінскі, перапісваючы «Тараса на Парнасе» ў свае сшыткі (гэтыя самаробныя рукапісныя хрэстаматыі непрызнанай і забароненай беларускай літаратуры паўставалі як народныя падручнікі), сцвярджаў: «Прыпавесць гэтая напісаная з нагоды нечаканага з'яўлення ў рускай літаратуры паэзіі простага маларасійскага казака Тараса Шаўчэнкі ў яго народнай гаворцы. Шмат нарабіў ён голасу».

Толькі Шаўчэнка, атрымаўшы адпускную, і надалей застаўся Шаўчэнкам. А наш паэт, меўшы першапачатковае прозвішча Васільеў, пасля атрымання «вольнай» ад свайго пана Васіля Бондырава (на думку Г.Кісялёва, не выключана, што наш Вераніцын быў яго пазашлюбным сынам), выбраў сабе прозвішча Вераніцын.

Атрыманая ад пана бацькі вольная не стала адзінкавай успамогай 12 гадоваму хлопчыку. Ужо сын астраўлянскага ўладальніка, «адстаўны падпалкоўнік Міхал Бондыраў», 28 жніўня 1845 г. пісаў просьбу на імя інспектара вучэльняў у Віцебскай губерніі, каб падлетка «прынялі ў той клас, у які па іспыце вартым падаса «. Пасля сямігадовай вучобы ў гімназіі (1845—1852, а перад тым была Гарадоцкая парафіяльная школка) прага да навукі прывяла юнака ў Пецярбургскую медыка хірургічную акадэмію (1852—1854).

Вучоба ў Пецярбургу — вось чым тлумачыцца веданне «парнаскіх» рэалій з жывымі чуткамі пра Булгарына і Грэча, пра «Пушкіна, Лермантава з Жукоўскім ды Гогалем», гнуткі верш «пушкінскай паэтычнай школы», які гэтак зграбна загучаў у творы.

А потым была вучоба ў слыннай Горы Горацкай «акадэміі», куды Кастусь Вераніцын паступіў ў 1857 г. адразу на трэці курс, а ў 1859 г. у ліку найлепшых студэнтаў скончыў «земляробчы інстытут» са званнем агранома, абараніўшы дысертацыю «Пра беларускую гаспадарку» («Знаць, і багі хазяйства водзяць, Калі свіней дзяржаць яны.»).

«Тарас на Парнасе» складаўся за часам пецярбургскага ды горацкага побыту.

Паэма мае ў сабе рысы студэнцкага «капусніка», аналага сённяшніх «Камедзі клабаў», толькі на непараўнальна вышэйшым інтэлектуальным узроўні. Разлічаная яна была на людзей адукаваных, знаёмых, прынамсі, са светам антычнай міфалогіі. Як сведчыў фалькларыст Еўдакім Раманаў, сяляне ўспрымалі паэму як «цікавую байку, але не для нашага розуму».

Выходзіць супярэчнасць: чаму Вераніцын, прадукт расійскай адукацыйнай сістэмы, які па расійску ўвабраў у сябе веды і пра тую ж культуру Старажытнай Грэцыі і Рыму, піша паэму па беларуску? Калі бальшыня насельнікаў краю не зможа яе ацаніць з прычыны няведання апісаных рэалій?

Спрацаваў, відаць, фактар Шаўчэнкі, жаданне паспрабаваць па свойму наследаваць яму. І другое — наўрад ці ў дваццаць гадоў Вераніцын даў бы рады вольна выкладаць думкі па расійску, тым больш вершамі. У XIX стагоддзі расійшчына яшчэ не здолела ўкараніцца ў мове тутэйшага люду ад Смаленчышыны і да Беласточчыны, ад Гомельшчыны і да роднай Вераніцыну Гарадоччыны на Віцебшчыне. Нават у мове звернутых у праваслаўе учарашніх уніятаў. Нават у абавязковых малітвах пацерах, не кажучы аб штодзённай гаворцы. Як сведчыць тагачасныя запісы этнографа фалькларыста Яна Карскага (дзядзька акадэміка), калі святар загадваў цягнуць «Господзі, памілуй», некаторыя сяляне адказвалі: «Мы не маскалі, каб спяваць «Госпадзі, памілуй!»… З пяці тысяч душ Лашанскай парафіі (радзіма Карскіх на Гродзеншчыне) хіба пяць чалавек (тысячная доля!) умела адгаварыць пацеры па расійску.



*Малюнак Сяргея Харэўскага*

Адзін з вядомых цяпер спісаў паэмымеўпазнаку «15 красавіка 1855 г., Гарадок». Твор, што пашыраўся ў сотнях, калі не тысячах спісаў (рукапіс, падпісаны псеўданімам «Навум» меў у сваім архіве Дунін Марцінкевіч) толькі праз трыццаць гадоў трапіў на старонкі пазаштатнай газеткі «Минский листок» (1889). Вераніцыну на той час было 55 гадоў. Але ці выпадала пецярбургскаму чыноўніку Міністэрства шляхоў зносін выхваляцца аўтарствам? Дый хто мог тады ведаць, што твор, напісаны чатырохстопным ямбам пушкінскай школы, гэтак цудоўна ўпішацца ў беларускую паэтычную стыхію і стане візітнай карткай нашай адроджанай паэзіі. Адроджанай на новай беларускай літаратурай мове. І якім таямнічым выдаўся яе нараджэнне, гэткім жа было і яе існаванне ў XX стагоддзі. Маю на ўвазе паэтычных «сястрыц» «Тараса на Парнасе» — паэмы «Сказ пра Лысую гару» (пачатак 1970 х) ды «Лука Мудзішчаў — прэзідэнт» (сярэдзіна 1990 х).

Дзе магіла Вераніцына ў Пецярбургу, як і дата ягонай смерці ў 1904(?) — невядомыя. Таму 13 чэрвеня можна адведаць на мінскай Кальварыі магілу даследчыка Генадзя Кісялёва.

Ён памёр 14 лістапада 2008 г., роўна праз 35 гадоў і адзін дзень пасля таго, як «на самага Кузьму Дзям'яна» падараваў Беларусі яшчэ аднаго класіка Канстанціна Васілёва Вераніцына. А нам — магчымасць згадаць гэты юбілей.

**Язэп Янушкевіч**
**Ракаў" "Наша Ніва"**

# Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе стварэацца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

ПАДАТКІ

# «ДАРМАЕДЫ» АПЫНУЛІСЯ НЕ ПА ЗУБАХ МЯСНІКОВІЧУ

**Ўлады пакуль не плануюць ўводзіць падатак для непрацуючых грамадзян. Больш за тое, «дармаедаў» не змогуць накіраваць на прымусовую працу: «радам трэба яшчэ міліцыянта паставіць, каб ён не ўцёк, і плаціць міліцыянту зарплату".**

Нагадаем, унікальная ідэя спаганяць на карысць дзяржавы грошы з грамадзян за тое, што яны не працуюць, належыць прэм'ер-міністру Беларусі. Мясніковіч агучыў яе год таму, назваўшы колькасць патэнцыйных плацельшчыкаў - 445 тысяч чалавек. Меркавалася, што сума падатку складзе 20 базавых велічынь.

Ініцыятыву прэм'ера падтрымала міністэрства працы. Першы намеснік міністра Пётр Грушнік заявіў, што дзяржава фінансуе сістэмы аховы здароўя, адукацыі, ЖКГ, транспарту і іншыя, таму дарэчы, каб «выдаткі на прадастаўленне гэтых паслуг маглі б кампенсавацца усімі грамадзянамі ў выглядзе выплаты розных падаткаў".

І вось, праз год, высветлілася, што ў бліжэйшай перспектыве падатак з дармаедаў ў Беларусі не ўвядуць. Пра гэта 12 чэрвеня журналістам паведаміў начальнік галоўнага ўпраўлення падаткаабкладання фізічных асоб міністэрства па падатках і зборах Міхаіл Расолька.

- У бліжэйшай перспектыве я не магу сказаць, што ён будзе прыняты, - цытуе Расолька FINANCE.TUT.BY.

Чыноўнік не ўдакладніў, на якой стадыі знаходзіцца пытанне аб падатку, паколькі яго распрацоўвае Мінпрацы.

- Вельмі складана вызначыць катэгорыю грамадзян, якая павінна плаціць. Дапусцім, скончыўся тэрмін дэкрэтнага адпачынку, дзіця не зусім гатовы пайсці ў дашкольную ўстанову, атрымліваецца, [маці] з першага месяца будзе лічыцца дармаедам? - Прывёў у прыклад адну з цяжкасцяў Міхаіл Расолька. - А калі чалавек дармаед, нідзе не працуе, як з яго спагнаць падатак? [Калі] вызначаць яго на нейкую прымусовую працу, побач трэба яшчэ міліцыянта паставіць, каб ён не ўцёк, і плаціць міліцыянту зарплату.

Відавочна, такая колькасць супрацоўнікаў міліцыі бюджэт Беларусі не пацягне. Так што ідэя Мясніковіча з трэскам правалілася.

Мабыць, адзіны чалавек у краіне, які можа шчыра знервавацца з гэтай нагоды, - спявак Аляксандр Саладуха. Ранейу інтэрв'ю «Салідарнасці» ён прызнаўся, што падатак на дармаедства яму падабаецца.

А вось музыка Лявон Вольскі, чыя працоўная кніжка з 1997 года пыліцца дома, быў упэўнены: дзяржава не прымусіць яго пайсці ў вартаўнікі.

- Хітры «народзец» хутка палічыць, што больш выгадна: фіктыўна працаваць або плаціць падатак за дармаедства, - папярэджваў ён чыноўнікаў.

Зрэшты, ва ўмовах адсутнасці сродкаў ўлады могуць нарадзіць яшчэ і не такія ідэі як падатак для непрацуючых. У дапамогу ўраду журналістка «Салідарнасці» Святлана Мяцёлкіна прапануе чалавекалюбам з урада альтэрнатыўныя варыянты, як папоўніць казну.

**Вольга Слуцкая**

**gazetaby.com/cont/art.php**

АНЕКДОТ

Жаліцца адзін чыноўнік другому.

— Ведаеш, краду, краду, а на жыццё ўсё роўна не хапае.

— А ты крадзі яшчэ і ў другім месцы.

* * *

Студэнт ідзе на іспыт. Думае: "здам - нап'юся, ня здам - нап'юся". Купіў бутэльку. Сунуў у кішэню пінжака і пайшоў здавацца. Адказвае на білет.

Выкладчык:

- Што гэта ў вас у кішэні?

- Ды так, нічога.

- Даставайце.

Студэнт дастае бутэльку, выкладчык шклянку.

Падлівае сабе і выпівае:

- Добра. Салёны агурок ёсць?

- Не.

- Шкада. А магло быць "выдатна", - запаўняе залікоўку.

* * *

У ваенкамаце начальнік пытаецца прызыўніка:

- Ну што, дзвесце баксаў або армія?

Прызыўнік паказвае камеру і адказвае: - Белы білет або ютуб?

УРОКІ МАЙДАНА

# ЦІ СТРАШНА ЛУКАШЭНКУ «ВІЦЕБСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА»?

**«Такое ўражанне, што Аляксандр Лукашэнка азнаёміўся з вашым дакладам раней, чым мы», - жартам сказаў я вугорскаму палітолагу Андрашу Рацу**

Рац, эксперт па «постсаўку», у дакладзе на міжнароднай канферэнцыі «Беларусь на авансцэне Еўразіі: паміж Масквой і Кіевам», якая праходзіла з 30 мая па 1 чэрвеня ў Варшаве пад эгідай Універсітэта Лазарскага, сфармуляваў ўрокі Майдана для беларускага рэжыму.

Венгерская палітолаг на мой жарт не пакрыўдзіўся, але і на маё пытанне досыць пераканаўча, як мне здаецца, не адказаў. Аднак - пра ўсё па парадку.

**Майдан: урокі для беларускага рэжыму**

Такім чынам, Андраш Рац падкрэсліў, па-першае, што «Еўрамайдан не меў нічога агульнага з выбарамі». Такім чынам, адзначыў эксперт, урок № 1 для Лукашэнкі заключаецца ў тым, што для яго палітычнага рэжыму існуе шмат нечаканасцяў, масавыя выступы магчымыя не толькі ў сувязі з выбарамі.

Другі ўрок - у тым, што «гэта была рэвалюцыя грамадзянскай супольнасці», партыі на Майдане з'явіліся пазней. Так што прыгнечанне структураванай апазіцыі зусім не страхуе рэжым ад вулічных хваляванняў.

Яшчэ адзін урок: «замежнае прысутнасць не заўсёды абавязкова». Рэвалюцыю далёка не ў кожным выпадку інспіруюць знешнія сілы, як любіць сцвярджаць афіцыйная прапаганда.

Наступны ўрок заключаецца ў тым, што «час працаваў на Майдан». Гэта значыць з пункту гледжання рэжыму пратэсты трэба душыць як мага хутчэй.

Нарэшце, стала відавочна: Расія гатовая «не толькі дэстабілізаваць сітуацыю ў суседніх краінах, парушаць мяжы, але і ганарыцца такімі сваімі дзеяннямі». Масква, адзначыў Рац, ўдасканальвае свой інструментар для ўздзеяння на суседнія краіны, стварэння там хаасу, у тым ліку шляхам інфармацыйнай вайны.

Расійскае кіраўніцтва фармуе ў блізкім замежжы ўласную пятую калону, ўкараняе агентуру, і таму, у прыватнасці, ні адзін постсавецкі лідэр не можа давяраць сваім сілавікам. Гэты ўрок таксама датычыць Лукашэнкі, пераканаы венгерскае эксперт. Больш за тое, яго сілавыя структуры могуць быць інфільтраваны агентамі Расеі яшчэ ў большай ступені, чым гэта было ў Віктара Януковіча, мяркуе аналітык.

«Як прадухіліць стварэнне Віцебскай народнай рэспублікі?» - Задаўся пытаннем Рац, маючы на ўвазе верагодны сепаратызм на манер Данецкай, Луганскай. Сэнс яго рэкамендацый звёўся да таго, што трэба ўсяляк ўмацоўваць мяжу з Расеяй, адгароджвацца ад яе ўплыву.

Тэзіс аб "Віцебскай народнай рэспубліцы" беларускія эксперты ўспрынялі скептычна. Так, небяспека расійскай экспансіі ўзрасла, але ў Беларусі няма перадумоў для такога рэгіянальнага расколу, як на Украіне. Ёсць і іншыя моманты, якія падводзяць да высновы: калі Масква надумае прыбраць да рук нашу краіну, то сцэнар напэўна апынецца іншым, чым на Украіне.

**Кансервацыя пакуль для Лукашэнкі бяспечней.**

На Украіне былі непараўнальна больш шырокія базавыя ўмовы для арганізацыі масавых пратэстаў - пачынаючы ад апазіцыі ў парламенце і канчаючы грашыма алігархаў, уплывовымі медыярэсурсамі. У цэлым ўкраінскі аўтарытарызм быў значна мякчэй, чым беларускі. Лукашэнка выкарыстоўвае комплекс жорсткіх прэвентыўных мер, каб ні палітычная апазіцыя, ні трэці сектар, ні СМІ не змаглі падняць галаву.

Выклаўшы гэтыя моманты, я задаў Андраш Рацу пытанне: як прыхільнікі пераменаў у Беларусі могуць, на яго думку, выскачыць з гэтага зачараванага маргінальнага кола?

Суразмоўца адказаў: тое, наколькі доўга здольны трымацца жорсткі аўтарытарызм, залежыць ад эканомікі. І калі Лукашэнка ў нейкі момант не зможа забяспечыць належны ўзровень жыцця, магчыма, ён пойдзе на нейкі дагавор з грамадствам, адпусціць гайкі, паколькі «вымушаны ўлічваць грамадскую незадаволенасць ».

Аднак мне ўспамінаецца 2011 год, калі беларускі рубель абясцэніўся амаль утрая, а гіперінфляцыя склала 109%. Так, рэйтынгі ўлады ўпалі, але ніякіх гронак народнага гневу, барыкаднай настрояў не назіралася. Наадварот, незалежная сацыялогія паказала, што большасць сышло ў індывідуальнае выжыванне, было гатова трымацца за працоўнае месца нават пры меншай зарплаце.

І навошта, скажыце, калі ласка, уладам пры такіх настроях адкручваць гайкі?

Так што пытанне пераменаў ўпіраецца яшчэ і ў рэсурс вялікай цярплівасьці беларусаў. Пакуль ён уяўляецца проста феменальным.

Другі момант: узровень страху і фаталізму. Паказальным разгромам Плошчы-2010 А.Лукашэнка (апярэдзіў ўрок ад Раца) надоўга адбіў у многіх беларусаў жаданне не тое што да вулічных пратэстаў, а і да палітыкі наогул.

Украінскія ж падзеі, як адзначаюць многія эксперты, толькі ўзмацнілі ў беларускім грамадстве запыт на моцную руку, стабільнасць, лозунг якой даўно засвоены афіцыйнай прапагандай. Рэйтынг Лукашэнкі падняўся на ўкраінскіх дражджах.

На сённяшні дзень беларускі афіцыйны лідэр мяркуе, што рэформы нясуць большы рызыка, чым захаванне статус-кво, падкрэсліў, са свайго боку, Карбалевіч. Рэформы , паводле яго слоў, могуць пачацца, калі кіраўнік дзяржавы палічыць, што, наадварот, рызыкі кансервацы мацней.

Аднак тут зноў магутна абмалёўваем расійскі фактар. І пра гэта мы пагаворым у наступным публікацыі аб варшаўскай канферэнцыі.

**Варшава - Менск**

**Аляксандр Класкоўскі**

**БЕЛАПАН**

УКРАІНА

# ПАРАШЭНКА РОБІЦЬ НЕСТАНДАРТНЫЯ КАДРАВЫЯ ПРЫЗНАЧЭНЬНІ

**Мэдыямагнат — кіраўнік адміністрацыі прэзыдэнта, амбасадар у Нарвэгіі — першы памочнік прэзыдэнта, а пляменьнік старога сябра — кіраўнік Дзяржаўнага кіраўніцтва спраў.**

Пра новыя прызначэньні ў вышэйшых кіроўных колах Украіны Радыё Свабода пагутарыла з украінскім палітолягам, дырэктарам Інстытуту глябальных стратэгіяў і адным зь лідэраў партыі «Єдиний Центр» Вадзімам Карасёвым.

***— Спадар Вадзім, давайце пагутарым пра кадравыя прызначэньні, якія зрабіў Пятро Парашэнка. Кіраўніком прэзыдэнцкай адміністрацыі будзе заснавальнік мэдыяхолдынгу «United Media Holding group» Барыс Ложкін, вельмі багаты і ўплывовы чалавек. Ці ня прыклад гэта алігархічнага прызначэньня?***

— Абсалютна не. Ложкін — не алігарх. Ён ніколі не займаўся палітыкай. Ён рабіў свой мэдыябізнэс з нуля. Яшчэ 17-гадовым хлапчуком ён у Харкаве пачынаў выдаваць незалежныя дзелавыя навіны. Потым стварыў брэнд і часопіс «Теленеделя», а затым і цэлы мэдыяхолдынг. Ён ніколі не выкарыстоўваў палітычныя сувязі для ўзбагачэньня. Тое, што Парашэнка ўзяў яго на пасаду кіраўніка адміністрацыі прэзыдэнта, сьведчыць пра тое, што прэзыдэнт хоча абаперціся на людзей зь дзелавой хваткай, але па-за алігархічнымі сувязямі, па-за элітнай тусоўкай, якая правіць ва Ўкраіне апошнія 15–20 гадоў, незалежна ад фігуры і прозьвішча прэзыдэнта.

Увогуле, Парашэнка сам будзе кіраваць адміністрацыяй прэзыдэнта, Барыс Ложкін будзе займацца камунікацыяй, мэдыямі і піярам. Адміністрацыя прэзыдэнта ва Ўкраіне і Беларусі — гэта розныя інстытуты. У Парашэнкі, у адрозьненьне ад Лукашэнкі, няма кантролю над элітамі, над выканаўчай уладай, над парлямэнтам. Адзіны кантроль, які ён зараз можа атрымаць, — кантроль над мэдыямі як сацыяльнымі інстытутамі. Ва Ўкраіне мэдыі — гэта асобны сацыяльны інстытут, у адрозьненьне ад Беларусі і Расеі. Таму цяпер Парашэнка хацеў бы ўзяць мэдыі пад свой шчыльны ўплыў. Для гэтага яму патрэбны Барыс Ложкін.

***— Гэты чалавек шчыльна працаваў з расейскімі выданьнямі. Чаму гэта не адбілася на выбары Парашэнкі?***

— Сапраўды, Барыс Ложкін стварыў свой холдынг на афіліяваных сувязях з расейскімі выданьнямі. Ён стварыў брэнды "Комсомольская правда в Украине"","Аргументы и факты в Украине«, «Известия в Украине» ды іншыя. Такім чынам, можна зрабіць выснову, што Парашэнку ня важна, які перад ім чалавек — заходнеўкраінскі ці ўсходні. Яму галоўнае, каб была дзелавая хватка. А тое, што ён узяў чалавека, які ствараў брэнды ў супрацы з расейскімі выданьнямі, толькі падкрэсьлівае, што для яго важныя не ідэалягічныя «фішкі» і непаразуменьні, а выключна прагматыка, дзелавая хватка і ўпэўненасьць у сваім партнэры. А Барыс Ложкін — яго даўні мэдыяпартнэр.

***— Што можаце сказаць пра прызначэньне першага памочніка прэзыдэнта? Ім будзе амбасадар у Нарвэгіі...***

— Тое, што ён сваім першым памочнікам зрабіў дыплямата Юрыя Анішчанку, які быў амбасадарам у Нарвэгіі, сьведчыць пра тое, што Пятро Парашэнка не жадае, каб ягоны першы памочнік быў «завязаны» на нейкія элітныя групоўкі і кланы. Парашэнка проста, можна сказаць, «выпісаў» чалавека з-за мяжы. Амбасадар у Нарвэгіі — гэта чалавек, далёкі ад сталічнай элітнай тусоўкі. Парашэнка ня хоча абапірацца на алігархічны кансэнсус.

***— Ваенны аналітык Дзьмітры Тымчук вінаваціць новага прэзыдэнта ў адсутнасьці ініцыятывы што да сілавога блёку і кіраўніцтва антытэрарыстычнай апэрацыі. Ці рыхтуюцца прызначэньні ў гэтай сфэры?***

— Пятро Парашэнка вельмі сур'ёзна займаецца пытаньнямі абароны. Ён прапанаваў пасаду міністра абароны Анатолю Грыцэнку, чацьвёртаму на гэтых прэзыдэнцкіх выбарах, былому міністру абароны ў 2005–2007 гадах. Вядома, калі будуць датэрміновыя парлямэнцкія выбары, то Грыцэнка можа не пагадзіцца на пасаду. Але Парашэнка вельмі шчыльна займаецца пытаньнямі абароны, гэта тое, што ён зараз робіць. Можна сказаць, што дзеля гэтага яго і абралі на прэзыдэнта, каб ён заняўся пытаньнямі бясьпекі і абароны. Увогуле, усе кадравыя прызначэньні вельмі нестандартныя, але адначасна вельмі талковыя. Я лічу, што гэта добры знак, знак таго, што прэзыдэнцтва Парашэнкі мае шанец на посьпех. Увогуле, ён чалавек зь дзелавой хваткай, кампэтэнтны, асабліва калі параўноўваць з папярэднім прэзыдэнтам.

**"Радыё Свабода"**

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦКІ РУХ

# ЗАЛАТЫ ВЕК ЧАЎНАКОЎ ПАДЫШОЎ ДА КАНЦА

**Нашумелы ўказ № 222 па рэгуляванні дзейнасці ІП падзяліў прадпрымальніцкі рух: адны рады паслабленням, іншыя рыхтуюцца закрываць свае гандлёвыя кропкі і выходзяць на забастоўкі. Так што ж на самай справе будзе з 60 тысячамі ІП, якія сёння б'юць у набат з-за прэзідэнцкага ўказу?**

Нагадаем, дакумент абавязвае ІП - плацельшчыкаў адзінага падатку з 1 ліпеня 2014 г мець дакументы, якія пацвярджаюць набыццё ўсіх тавараў, якія рэалізуюцца, у тым ліку што ўвозяцца з краін Мытнага саюза (МС). Да 1 сакавіка 2015 г для ІП устаноўлены пераходны перыяд. На працягу гэтага часу прадпрымальнікі могуць распрадаваць набытыя ў краінах МС да 1 ліпеня 2014 года рэшткі тавараў без суправаджальных дакументаў.

Кіраўнікі Беларускага саюза прадпрымальнікаў і Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і працадаўцаў назвалі ўказ "прагрэсіўным" і «кампрамісным».

Аднак прадстаўнікі прадпрымальніцкага аб'яднання "Пэрспэктыва" ацанілі ўказ негатыўна. На іх думку, у цяперашніх умовах выканаць патрабаванні ўказа немагчыма, бо паранейшаму ўзнікаюць праблемы з атрыманнем патрэбных дакументаў у пастаўшчыкоў. 5 чэрвені прадпрымальнікі Віцебска, Магілёва, Бабруйска і шэрагу іншых гарадоў правялі аднадзённы страйк, абяцаючы з 1 ліпеня наогул не выйсці на працу.

Пра тое, чаму прадпрымальнікі па-рознаму глядзяць на адзін і той жа ўказ, інтэрнэт-газета Naviny.by паразмаўляла з кіраўніком Мінскага саюза прадпрымальнікаў і працадаўцаў Уладзімірам Карагіным.

***- Кажучы пра ўказ № 222, вы назвалі яго прагрэсіўным. Але некаторыя вашы калегі прадпрымальнікі з такім падыходам не згодныя і нават зладзілі забастоўкі. Чым тлумачыцца такая розніца ў падыходах ўнутры прадпрымальніцкага руху?***

- Рэалізму. Мы на працягу сямі гадоў змагаліся за тое, каб вярнуць прадпрымальніку права наймаць наёмнага работніка па-за кругa сям'і, каб быць рэальным прадпрымальнікам. Гэта вельмі важнае патрабаванне, якое мы прасоўвалі з году ў год, і яно тычыцца не толькі тых 60 тысяч прадпрымальнікаў, якія працуюць у галіне гандлю - на рынках і ў гандлёвых цэнтрах, яно закранае больш за 250 тысяч чалавек.

Многія з іх выдатна разумеюць, што з 1 ліпеня пойдзе інтэнсіўнае наступ гандлёвых сетак, будзе вялікая канкурэнцыя. Залаты век індывідуальных прадпрымальнікаў, якія займаюцца ўвозам у торбах тавараў, падышоў да канца з-за эканамічных прычын. 21-е стагоддзе - стагоддзе сеткавага гандлю, дробнага, сярэдняга і буйнога опту, сеткавай розніцы. У краіне ўжо існуе 30 такіх сеткавых структур.

Мы ведаем ужо падпісаныя планы па інвестыцыйных праграмах у рэгіёнах, планы развіцця гарадоў, мы ведаем, якія рынкі і гандлёвыя цэнтры ў Мінску ў бліжэйшы час спыняць сваё існаванне.

***- Якія?***

- Я не маю права гэта казаць. Але многія самыя вядомыя, буйныя з іх у адпаведнасці з горадабудаўнічымі планамі ўжо не будуць працаваць. Інвестары ўжо думаюць па-іншаму, на тэрыторыі рынкаў будуць аб'екты лагістыкі, дробнага опту і г.д.

Другі момант. Ёсць патрабаванне партнёраў Беларусі па Мытным саюзе, каб Беларусь не садзейнічала развіццю ценявы эканомікі саюза трох краін. Гэта жорсткае патрабаванне, якое на кансультатыўных саветах прасоўвалі у тым ліку і сілавыя структуры. На працягу многіх гадоў у Беларусі было дастаткова ліберальнае стаўленне да выканання закона аб абароне правоў спажыўцоў. Гэты перыяд падышоў да канца. Мы імкнуліся яго адцягнуць, як маглі. Праца бізнес-асацыяцый, бесперапынныя перамовы з урадам, просьбы гэта перанесці на паўгода, на год. Я сам ездзіў у Маскву, Астану, мы гэта абмяркоўвалі на ўзроўні трох краін. Мы і спасылаліся на тое, што яшчэ няма аптовых сетак, гандлёвых баз, ёсць праблема занятых людзей, іх сем'яў.

Гэтыя ўсе нашы аргументы растварыліся ў апошні час. У нас мільён працоўных рук не хапае сёння ў бізнэсе. Няма каму працаваць у гіпермаркетах, на касах, складах, на базах, не хапае кіроўцаў грузавікоў. То бок, у нас фізічна не хапае людзей у эканоміцы. У нас няма праблемы беспрацоўя.

Ёсць праблема канкурэнтаздольнасці. І канкураваць можа добра арганізаваная, эшаланаваная гандлёвая структура, а не маленькі чалночніка.

***- А што рабіць сёння гэтым людзям?***

- Аб'яднoўвацца. Сёння павінны і могуць стварацца гандлёва-закупачныя кааперaтывы, якія размяркоўць паміж сабой выдаткі на дастаўку тавараў, адбор тавараў, клопаты па сертыфікацыі, выкананню тэхрэгламенту, якія мы таксама паспрабавалі за гэты год перакласці на буйны сектар эканомікі. У ходзе работы рабочай групы (па рашэнні пытанняў індывідуальных прадпрымальнікаў, якія гандлююць таварамі легпрама. - БелаПАН) з Пятром Пракаповічам, з прэм'ер-міністрам, мы дамагліся максімум таго, што знаходзіцца ў кампетэнцыі ўрада, мытнага камітэта, міністэрства па падатках і зборах. Яны ўжо не маюць права ісці на саступкі. Гэта наднацыянальнае рэгуляванне.

***- Ваш прагноз, што будзе з гэтымі незадаволенымі прадпрымальнікамі?***

- Іх колькасць скароціцца, таму што яна штучна стваралася. Шматлікія прадаўцы сёння не прадпрымальнікі, ніколі імі не былі ні па духу, ні па кваліфікацыі. Проста былыя ўладальнікі іх зрабілі прадпрымальнікамі. Ім трэба ўзбуйняецца, наладжваць гандлёвыя сеткі, ланцужкі паставак. Асобныя з іх змогуць працягнуць працу. У першую чаргу тыя, у якіх ёсць ўстойлівая сетка спажыўцоў. 20% прадпрымальнікаў наогул гандлююць толькі беларускімі таварамі.

Масавы пласт прадпрымальнікаў, якія працавалі на рынку, адчулі, што змяніліся густы і перавагі насельніцтва. Беларусы пацягнуліся да брендавых тавараў, высокай ступені якасці, з высокімі гарантыямі, куплі тавараў у крэдыт, дастаўцы на дом.

***- Гэта значыць, вы прагназуеце рост беспрацоўя?***

- Мы, вядома, прагназуем, што адсоткаў на 40 скароціцца колькасць гэтых прадпрымальнікаў. Але я падкрэсліваю, многія стануць наёмнымі работнікамі. Але намаганне над сабой, вядома, прыйдзецца прыкласці. Але дзеючым суб'ектам гаспадарання і так даводзіцца перабудоўвацца пад зменлівую кан'юнктуру рынку кожныя два-тры гады.

Мы разумеем, гэтыя людзі шмат зрабілі. Насыцілі рынак таварамі ў момант дэфіцыту. Але сёння няма таварнага дэфіцыту, ёсць вялікая канкурэнцыя. І яна вырасце яшчэ ў разы зараз, калі знятыя мяжы паміж Расіяй і Беларуссю.

Так, гэта вялікая бяда, што наш прадпрымальнік імкнецца купіць тавар не ў аптовым звяне Расіі, а ў рознічным. А рознічны прадпрымальнік, ды яшчэ незаконны, які не выдае ніякага чэка і не гарантуе якасці тавару, ён і ў Расіі па-за законам.

***- Як вы думаеце, забастоўка дасць нейкі вынік?***

- Не. Наўрад ці нейкія забастоўкі дадуць вынік. Я лічу, што прадпрымальнікі павінны дзейнічаць прадпрымальніцкімі метадамі. Забастоўка - гэта форма пратэсту наёмных работнікаў заўсёды ва ўсім свеце. Наш урад вычарпала мяжа сваёй кампетэнцыі па гэтым пытанні.

**Арцём Шрайбман**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 16.06.2014 у 20.20** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.